**Год VI. Травень № 5 (65).**

# Шлях Моладзі

…„Падымайся з нізін, сакаліна сям'я
Над крыжамі бацькоў, над нягодамі!
Занімай, Беларусь маладая мая,
Свой пачэсны пасад між народамі.“

ЯНКА КУПАЛА.



ВІЛЬНЯ, 1934 г.

Беларуская Друкарня ім. Францішка Скарыны — Вільня, Завальная вул. № 1

ЗЬМЕСТ № 5:



# BIEŁARUSKAJA ABECEDA

Беларуская абэцэда.

| | | |
|---|---|---|
| A, a — A, a. | J, j — Й, й. | R, r — P, p. |
| B, b — Б, б. | Ja, ja — Я, я. | S, s — C, c. |
| C, c — Ц, ц. | Je, je — Е, е. | Ś, ś — СЬ, сь. |
| Ć, ć — ЦЬ, ць. | Ju, ju — Ю, ю | Š, š — Ш, ш. |
| Č, č — Ч, ч. | K, k — К, к. | T, t — T, т. |
| D, d, — Д, д. | L, l — ЛЬ, ль. | U, u — У у. |
| E, e — Э, э. | Ł ł, — Л, л. | Ŭ, ŭ — Ў, ў. |
| F, f — Ф, ф. | M, m — M, м. | V, v — B, в. |
| G, g — Г, г. | N, n — H, н. | Y, y — Ы, ы. |
| H, h — Г, г. | Ń, ń — НЬ, нь. | Z, z — З, з. |
| Ch, ch — X, x. | O, o — O, o. | Ž, ž — Ж, ж. |
| I, i — I, i. | P, p — П, п. | Ź ź — ЗЬ, зь. |

„Шлях Моладзі"

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

Цана асобнага нумару 30 гр.

Падпіска на 3 месяцы . . . 50 гр.
„ на паўгода. . . . . 1 зл.
„ на год . . . . . . 2 зл.

Заграніцу — ўдвая даражэй.

Цана абвестак паводле ўмовы.

**Адрэс Рэдакцыі:** Вільня (Wilno), Завальная № 1 — 3

Рэдакцыя адчынена ад гадз. 9 да 3-яй папаўдні.

# Шлях Моладзі

МЕСЯЧНАЯ ЧАСОПІСЬ БЕЛАРУСКАЙ МОЛАДЗІ.

| Год VI. | Вільня, Травень 1934 г. | № 5 (65). |
| --- | --- | --- |


## ВЯСЬНЯНЫЯ ЛЯТУЦЕНЬНІ.

Ўсьміхнулася сонца усьмешкай вясёлай,
Збудзіла зямельку ад цяжкага сну,
А ў небе ўжо песьняю дзіўнай, бясконцай
Вітае жаўронак красуню-вясну.

Як покліч прызыўны, як гымн перамогі
Зьвініць яго песьня ў нябеснай вышы,
І з сэрца зьнікаюць і смуткі й трывогі,
І радасьць плыве да збалелай душы.

А сэрцу, пад сьпевы шчасьлівае долі,
Сагрэтаму ласкай прыгожай вясны
Так хочацца мроіць аб шчасьці і волі,
Так хачацца сьніць ды вясёлкавы сны.

Так хочацца верыць, што разам з зімою
Адыйдуць нягоды ад нас ў нябыцьцё,
І з сьветла-чароўнай красуляй вясною
Сьвятлейшым і лёгкім нам стане жыцьцё.

С. Гаротны.

## ЖАЎРАНАК.

(Сонэт).

Над полем шэрым жаўранак ўзьляцеў...
І бачыла яго буйное поле:
Зямля задумалась аб шчасьці-долі
І зарунеў прабуджаны пасеў.

Паліўся з вышаў ціхім звонам сьпеў...
Дрыжыць, зьвініць магутна песьня волі...
І заціхаюць ў серцы зыкі болю
І сум мінае, гасьне чорны гнеў...

Дык хай-жа льецца песьня у блакіты!...
Няхай прабудзіць родныя палі,
Пацешыць тых, што доляю прыбіты,

Затоптаны, сагнуты да зямлі,
Каб ўсталі волаты у бой адкрыты
І горкіх сьлёз век цэлы ня лілі!...

А. Бярозка.

Ад. Станкевіч.

# Да гісторы беларускага палітычнага вызваленьня. 3)

*70-лецьце сьмерці К. Каліноўскага рэд. „Муж Praйdy“ (†1864) — 50-лецьце „Гоману“ (1884) — 16-лецьце Абв. Незал. Беларусі (1918).*

## III. Палітычна-вызвольныя ідэі ў Эўропе XIX ст. і Беларусь.

К. Каліноўскі з сваей часопісяй „Mużyckaja Prauda“, як сказана вышэй, І. Грынявецкі і тыя беларускія народнікі, што выдавалі часопісь „Гоман“, былі першымі ў XIX ст. пачынальнікамі палітычнага вызваленьня Беларусі, пасьля яе доўгага занепаду. Аднак ані гэныя людзі, ані чыны іх не зваліліся з неба, не паявіліся ні з сяго, ні з таго на беларускіх гонях, але памог зрадзіць іх дух часу, патрэбы і ідэалы, якія тады панавалі ў заходняй Эўропе.

У XVIII ст. у літэратуры панаваў там яшчэ, асабліва ў Францыі, пераважна так званы клясыцызм. Гэта знача, што пісьменьнікі рознага роду краснага пісьменства сьлепа трымаліся ў сваім літэратурным творстве формаў і спосабаў старадаўных грэкаў і рымлянаў, а ня ўнікалі ў дух і глыбіню думак іх. Гэтыя новыя клясыкі, ці як часта звалі іх — псэўдо (фальшывыя), або францускія клясыкі, ня бралі з культуры старадаўных грэкаў і рымлянаў веды, а бралі толькі форму, насьледавалі толькі вонкавы бок іх творства. Гэта ў выніку давяло да ўпадку літэратуры, да сьмешнасьці нават і змусіла пісьменьнікаў шукаць новых дарог.

На зьмену — і як проціўвага клясыцызму—прышоў узноў романтызм. Романтызмам завецца такі кірунак людзкой думкі, які кладзе націск пераважна на асабістасьць чалавека, на пачуцьцё і выабражэньне яго. Кірунак гэты зварачваецца да мінуўшчыны народаў, да сярэднявечча і да хрысьціянства. Романтызм быў кірункам, які абыймаў усе галіны духовага творства чалавека, а знача і навуку, асабліва гісторыю, філёзофію і мастацтва.

Пачатак романтызму адносіцца да таго часу, калі ў Эўропе, пасьля ўпадку Зах. Рымскай Імпэрыі, паўставалі новыя хрысьціянскія дзяржавы, аснаваныя раманскімі народамі. Тады паявілася романтычная літэратура, або романтызм, які фактычна азначаў сярэдневяковую літэратуру, прасякнутую містыцызмам.

У час гуманізму, або адраджэньня (ст. XIV—XVI) романтызм паволі быў выціснуты клясыцызмам, пасьля выраджэньня якога ў канцы XVIII ст. прышоў узноў романтызм абноўлены і адроджаны, прыносячы ўжо ў літэратуру новыя формы і пераважна новы зьмест. Цяпер на літэратуру пачалі глядзець як на самастойную галіну жыцьця паэтаў і пісьмень-

нікаў і як на дзейнік вышэйшых, ідэальных імкненьняў чалавека. Зьмест свой романтычная літэратура пачала чэрпаць з крыніц народнага жыцьця, а праз гэта новы романтызм зблізіў літэратуру з народнасьцяй.

Вясна романтызму засьвяціла так-жа і над галавой Беларусі, а з ім прыходзіла да беларускага народу і ягонае нацыянальнае адраджэньне.

Романтызм у літэратуры з Эўропы даходзіў і да нас. Зярняты нацыянальных ідэяў, зроджаных романтызмам, дзякуючы стычнасьці з Эўропай асьвечаных клясаў нашага краю, дакаціліся і да Беларусоў. Дасканальным правадніком гэных ідэяў у нас быў да свайго закрыцьця (1832) Віленскі ўнівэрсытэт.

З муроў гэтага ўнівэрсытэту, або пад яго ўплывам, паявіліся беларускія романтыкі, паэты-пісьменьнікі: Ян Баршчэўскі, Ал. Рыпінскі, Ян Чэчат, а так-жа і бацька беларускага краснага пісьменства Вінцук Дунін-Марцінкевіч.

З муроў гэтага-ж унівэрсытэту паявіліся так-жа беларускія романтыкі і ў навуцы, якія дасьледжвалі беларускую гісторыю, права, мову. Да гэткіх належаць: уніяцкія сьвяшчэньнікі: праф. М. Бабровскі і Платон Сасноўскі, а так-жа праф. Ігнат Даніловіч, Яз. Ярашэвіч і іншыя.

У тым-жа больш-менш часе, гэта знача ў канцы 18 і ў пач. 19 ст., апрача романтызму ў літэратуры, у мастацтве і навуцы паявіўся ў тэй-жа Зах. Эўропе і романтызм народна-палітычны. І гэта цалком зразумелая рэч. Калі романтыкі ў літэратуры і навуцы апявалі і апісвалі красу жыцьця народаў і іх слаўную мінуўшчыну, дык не маглі яны ня ўбачыць і ад'ёмных бакоў гэтага жыцьця, як няволі палітычнай і соцыяльнай народаў. І сапраўды, романтызм літэратурны і навуковы лёгічна вёў да романтызму палітычна-народнага. Ад песьняў аб красе і нядолі жыцьця народаў, ад навуковых досьледаў над гісторыяй і мовай народаў, — беспасрэдны пераход да барацьбы за лепшае палітычнае і соцыяльнае жыцьцё іх.

XVII і XVIII ст. ў жыцьці палітычным — гэта час абсолютызму, сутнасьць якога ў тым, што манарх, пад панаваньне якога ў працягу гісторыі розным спосабам, ня вылучаючы атрыманьня іх у спадку па жонцы, падпалі розныя народы, быў іх неагранічаным валадаром і панам. У ягоных руках была найвышэйшая ўлада ўставадаўчая, выканаўчая, а нават і судовая.

У канцы-ж XVIII ст. у міжнародным праве ў Зах. Эўропе пачынае ўгрунтоўвацца аснова сувэрэннасьці (поўнай незалежнасьці ад пастароннай палітычнай улады) народу, якая ёсьць аднэй з падставаў нацыянальнасьці. Паводле гэтай думкі кожны народ ёсьць адзіным гаспадаром усяго таго, што ён мае[1]).

Магутным дзейнікам і сяўцом гэтых ідэяў была ў Эўро-

1) „La nation etant seule maitresse des biens qu'elie possede, elle peut en disposer comme bon lui semble". „Vattel — Le droit des gens ou principes de la loi naturelle. Kn. I, b. 291. 1774. (Паводле: St. Kodź — Zasady Narodowości, 1932, бач. 44).

пе Вялікая Француская Рэвалюцыя (1789), якая для гісторыі многіх народаў і іх палітычна-нацыянальнага вызваленьня была сапраўды зваротным пунктам. Ідэолёгія гэтай рэвалюцыі апіралася на ідэях вольнасьці асабістай адзінак і народаў. Развою ідэяў Вял. Францускай Рэвалюцыі, хутка па ёй паўстаўшыя наполеонаўскія войны ня толькі ня ўстрымалі, але яшчэ й дапамаглі ім, хоць уся дзейнасьць Напалеона была супярэчная з прынцыпам народнасьці. Наполеонаўскае войска па ўсей Эўропе разносіла ідэі Вял. Рэвалюцыі і аднячасна заваёўвала іх. Вось-жа гэта шырэньне нацыянальных ідэяў і аднячасна гвалтаваньне іх у народах паглыбляла нацыянальную сьведамасьць і выклікала абурэньне процiў чужацкіх акупантаў.

Урэшце, калі прышла ў тэй-жа Францыі рэвалюцыя ліпнёвая (1830) і рэвалюцыя лютаўская (1848), якія гулкім рэхам пракаціліся па ўсей Эўропе, выклікаючы ў свой чарод рэвалюцыі сярод многіх народаў за свой самастойны народна-палітычны быт, прынцып палітычнага романтызму, прынцып нацыянальны ў палітычным і соцыяльным жыцьці многіх народаў Эўропы яшчэ больш умацаваўся і ўгрунтаваўся.

Слушна гэты час, асабліва год 1848, завецца ў гісторыі вясной народаў. У гэтым часе паднялі сьцяг барацьбы за сваю палітычную самастойнасьць і за сваё нацыянальнае аб'яднаньне, як народы, што самастойнасьць гэту мелі і яе ўтрацілі, так і тыя, што першы раз жадалі яе здабыць. У гэтым часе спатыкаемся з вызвольным нацыянальным рухам бэльгаў, вуграў, немцаў, палякоў, чэхаў, італьянцаў, флямандцаў, каталёнцаў, грэкаў, славакаў, румынаў, харватаў, сэрбаў, баўгараў і многіх іншых.

Разам з развоем нацыянальнай ідэі самастойнасьці народаў, паўстала так-жа пытаньне аб узаемных гэтых вольных народаў адносінах. Вось-жа ў тым самым XIX ст. паўстала ідэя фэдэралізму. Фэдэрацыя (foedus—дагавор)—саюзная дзяржава. Бывае яна тады, калі паасобныя вольныя народы дабравольна твораць адну дзяржаву, на падставе дагавору між сабой. Агулам гаворачы, фэдэрацыя — гэта больш менш тое самае, што самая крайняя дэцэнтралізацыя дзяржавы, самы шырокі самаўрад. У фэдэрацыйнай дзяржаве існуюць для паасобных народаў і краін паасобныя соймы і ўрады, якія і вядуць усе ўнутраныя справы краю. Заграпічную-ж палітыку, фінансы і войска вядзе ўрад цэнтральны, агульна-фэдэрацыйны.

Пад ўплывам гэтай агульнай фэдэрацыйнай ідэі паўстала тады так-жа ідэя фэдэрацыі агульна славянскай, ці ідэя т. зв. панславізму (усеславянства), ідэя саюзу славянскіх палітычна—вольных народаў. Тварцом гэтай ідэі быў славак Колярж[1].

1) Пераняли гэтую ідэю расейцы (славянафілы) і сапсулі яе. Яны не прызнавалі асобнасьці, асабліва палітычнай, іншых славянскіх народаў апрача расейцаў і лічылі, што ўсе гэтыя народы павінны зьліцца ў вадзін народ расейскі і паддацца пад кіраўніцтва расейскага цара.

Словам, у XIX ст. нацыянальна-палітычная сьведамасьць народаў дайшла да вялікіх разьмераў, кіруючы гэтыя народы да самастойнага палітычнага жыцьця. Праўда, сьляды такой сьведамасьці і такой волі народнай спатыкаем ужо ў канцы сярэднявечча, аднак дзейнік народны аж да другой паловы XVIII ст. большай ролі не адыграў. А ўжо ад канца XVIII ст. зачаўся шыбкі ўзрост народнай сьведамасьці ўва ўсей Эўропе. Узрост гэты яшчэ больш, як убачым ніжэй, зазначыўся па сусьветнай вайне, сільна зазначаецца і дзеіць сяньня.

У тым часе, калі ў Эўропе так буйна разьвіваўся вызвольны рух народаў, Беларусь — разам з Польшчай, Літвой і Украінай — ужо належала да царскай Расеі. Сюды так-жа далятали гэтыя крылатыя народніцкія ідэі і спатыкалі тут гарачае спачуцьцё і захапленьне прадусім сярод студэнства. І так, у другой палове XIX ст., пад уплывам гэтых ідэалаў Эўропы, у Расеі паўстаў палітычна-вызвольны рух ведамы пад назовам „народничества". Пазьнейшыя арганізацыі гэтага кірунку зваліся: „Зямля і Воля", і з яе паўстаўшыя: „Черный Передѣл" і „Народная Воля" (1879—1886). Клічам нанароднікаў было „хожденіе в народ", каб вучыць яго і будзіць да лепшага жыцьця, да зямлі і волі. Палітычнай праграмай „землевольцаў", замест царскага неагранічанага самадурства, было „учрежденіе казачих кругов, т. е. вольных, автономных общин с выборными, ответственными и всегда сменяемыми исполнителями народной воли"[1]).

Тымчасам самі тварцы расейскага „народничества" і „хожденія в народ": Бакунин (1814—1876), Герцен (1812—1870) і інш. гэна права „вольных автономных общин" выразна прызнавалі і Беларусі. Асабліва ярка аб гэтым выражаўся Бакунін. Ён у сваей слаўнай „Адозве да Славян" паіменна вылічае ўсе народы царскай Расеі: беларусоў, палякоў, украінцаў, літоўцаў, фінаў, латышоў і інш. і прызнае ім права на самастойнасьць у фэдэрацыйнай лучнасьці між сабой, або і права на поўную незалежнасьць. Бакунін дамагаецца, каб кожнаму народу была дадзена свабода ўладзіць лёс свой палітычны, як ён толькі захоча. Гэткіх самых поглядаў трымаўся і Герцен, высказваючы іх аднак больш спакойна і асьцярожна. Фэдэрацыю яны разумелі, як вольны саюз вольных народаў[2]).

Бакунін верыў, што „польскае паўстаньне сапраўды падыме народы быўшага Вялікага Княства Літоўскага да самаазначэньня ў кірунку поўнай незалежнасьці, або прынамсі да фэдэрацыі[3]).

---

1) С. Агурский — Очерки по историй революціоннаго движения въ Белоруссии (1863—1917). Минск 1928, бач. 26.

2) L. Kulczycki: Rewolucja Rosyjska. Lwów 1909. T. I. 398—9.

3) „Письма М. А. Бакунина къ А. И. Герцену і Н. П. Огареву съ біографическимъ введеніемъ и объяснительными примѣчаніями Драгоманова" бач. 82.

У імя гэткіх народніцкіх і фэдэрацыйных ідэалаў бароліся — за выняткам буйных паноў—і палякі. Яны, гэныя палякі дэмократы, імкнуліся да незалежнай Польшчы, у складзе якой жадалі-б, праўда, бачыць Літву, Беларусь і Украіну, але злучаныя між сабой вузлом фэдэрацыі[1]).

Да вольнасьці палітычнай у кірунку фэдэрацыйным імкнуўся тады і народ украінскі. На чале гэтага руху стаялі Костомараў і Драгоманаў.

Украінскі гісторык Мікалай Костомараў (1817—1885), быў тварцом ідэолёгіі фэдэрацыі славянскіх народаў на асновах хрысьціянскай любові і справядлівасьці. Дзеля пашырэньня гэтых вялікіх ідэяў, ён — разам з іншымі — заснаваў ведамае ў гісторыі „Кірыла-Мяфодаўскае Брацтва". Праграма гэтага палітычнага брацтва прадбачыла незалежнасьць кожнага славянскага народу, злучанага фэдэрацыйна з Расеяй. Між славянскімі народамі, што мелі ўвайсьці ў склад гэнай вялікай фэдэрацыі, паіменна быў браны пад увагу і народ беларускі. Усё правадаўства, уласнасьць і асьвета ў гэнай славянскай фэдэрацыі павінны былі апірацца на навуцы Хрыстовай[2]). А затым, што падобныя фэдэрацыйныя ідэалы, як ведаем, мела і дэмократыя польская, прынамсі што да Беларусі, Літвы і Украіны, жадаючы, каб гэтыя краіны ўвайшлі ў фэдэрацыю з Польшчай, Костомараў уважаў, што Беларусь, Літва і Украіна самі павінны выявіць сваю волю, да якой фэдэрацыйнай дзяржавы яны хочуць нахежаць: да Расейскай, ці Польскай[3]).

Брацтва сьв. Кірыла і Мяфода, да якога належыў і Шэўчэнка, у 1857 г. царскай уладай было скасавана, а сябры яго арыштаваны і павысыланы ў Сібір. Ідэі аднак гэтага Брацтва асталіся жыць далей. Ідэі гэныя пашыраў далей і разьвіваў другі ўкраінскі вучоны гісторык і палітык Міхал Драгоманаў (1841—1895), фэдэралістычныя думкі якога мелі вялікі ўплыў і на інтэлігенцыю расейскую. Быў ён між іншым рашучым праціўнікам, каб Літва і Беларусь, замест быць вольнымі фэдэрацыйнымі дзяржавамі ды былі звычайнымі правінцыямі Польшчы, або Расеі[4]).

Гэтымі ідэямі кармілася і беларуская моладзь на расейскіх унівэрсытэтах. Гэтыя ідэі радзілі сярод іх барацьбітоў за палітычную волю беларускага народу. Гэтыя ідэі зрадзілі беларускіх народавольцаў: Каліноўскага і яго „Mużyckuju Praudu", Грыневецкага і тых барацьбітоў, што выдавалі „Гоман".

---

1) L. Kulczycki, там-жа, I 393, 427.

2) L. Kulczycki, там-жа, I 268—269.

Ю. Охримович — Розвиток українськоі нац.-пол. думки. 1922, бач. 40 і наст.

3) L. Kulczycki, там-жа, I 396.

4) L. Kulczycki, там-жа' II, 253-4.

Ю. Охримович, там-жа, бач. 88 і наст.

# Da samabytnaści.

Vielmi mnoha apošnim časam havorycca i pišycca ab hoładzie, jaki tak časta naviedvaje naš Kraj. Z hutarki hetaj i pisaniny nia prychodzicca dzivicca, bo i sapraŭdy „hoład nia ciotka", a žudasnaje źjavišča — i dziela hetaha kožny šukaje jaho pryčyn, sposabu baraćby z im i na svoj ład abhavarvaje ich. I tak, adny bačać pryčynu hoładu ŭ nieŭradžai, druhija ŭ—atmosferyčnych zabureńniach, inšyja—ŭ niedachopie ahranamičnaje viedy sialan i kiepskaj systemie haspadaravańnia i h. d. i h. d. Usio heta sapraŭdy adyhryvaje vialikuju rol, adnak nia vyklučnuju. Bo ŭ nas ludzi časta haładajuć viadučy dobra haspadarku i pry dobrych uradžajach.

Mnie, jak synu sielanina, prychodziłasia žyć z biełaruskimi sialanami, sapraŭdy dobrymi i kulturnymi haspadarami, jakija mieli navat ziamlu ŭžo schutaryzavanuju, biaz nijakich daŭhoŭ. I hetyja voś sialanie, choć nia byli pjanicami, i pry siarednich uradžajach namałočvali z kapy žyta 12 i bolš pudoŭ, to adnak, kali prychodziła viasna, dyk im chleba nie chapała.

Čamu? — Tamu što ichnyja chutary ci pałoski na tolki małyja, što pry najlepšym haspadaravańni i ŭradžai, pry adnačasnaj dalokaści ad miesta, nie pazvalali im tak žyć, kab uvieś čas chapała praduktaŭ na narmalnaje pražyćcio. Hetaje voś źjavišča ja ŭvažaju za najbolš nienarmalnaje i za takoje, jakoje najbolš pryčyniajecca da panavańnia hoładu.

Pieramahčy jaho jašče, jasna, možna — pabolšvajučy zahony našych sialan, bo nasielnictva ŭ nas jašče nia tak šmat. Ale da hetaha adnak nia jdzie, i ziamla naša pa krysie ŭciakaje da asadnikaŭ susim nia z našaha Kraju.

Kab-ža ziamielka naša papadała ŭ ruki biełaruskich sialan, treba, kab narod naš moh **vyjaŭlać svaju volu.**

Biełaruskaja moładź, pierad jakoj pahroza hoładu staić mo' na cełaje žyćcio, pavinna ab usim vyšejskazanym dobra pomnić i z maładych dzion žyćcio svajo kiravać tak, kab jšło jano da samabytnaści biełaruskaha narodu, šlacham da katoraj źjaŭlajecca šlach arhanizavanaje biełaruskaje adradženskaje pracy na kulturnaj i ekanamičnaj nivie. **J. N.**

### Pomač dla haładajučych Biełarusoŭ.

U suviazi z ciažkim pałažeńniem Biełarusoŭ u miežach Polskaje dziaržavy, sekcyja pomačy pry Litoŭskim Dabradziejnym T-vie ŭ Vilni asyhnavała praz redakcyju „Samapomač" 2.500 zł. dziela padziełu siarod haładujučych biełarusoŭ. Prośby ab pomač, z dakładnym apisańniem svajho pałažeńnia, paćvierdžanym jakoj kolečy biełaruskaj arhanizacyjaj, ci viedamaj z karysnaj pracy dla biełarusoŭ asobaj, možna padavać da 3.VI.34h. u Kamisiju Pomačy Haładajučym Biełarusom pry red. „Samapomačy": Wilno, Połackaja vul. 4—10. Padzieł zapamohi adbudziecca 5 červienia, a vydača — ad 5 da 10 červienia s. h.

Bazyl Stvoł.

# Vialikija pracaŭniki.

Vialikija dasiahnieńni techniki siańniašniaha dnia, vysoki rovień cyvilizacyi jość vynikam vialikaj pracy zroblenaj u minuŭščynie. Usio, što zroblena vialikaha ŭ halinie navuki, mastactva, usie zdabyčy kulturnyja — heta praca ludziej žyvučych pierad nami. Kožnaje pakaleńnie daje svaju cehłu pad vializarny dom budučyni. Kožnaje pakaleńnje pakidaje ŭ spadčynie nastupnamu pakaleńniu svaje zdabyčy.

Umysłovyja pracaŭniki, jakija zajmajuć pieršaje miesca siarod usich inšych, z pryčyny vartaści svaje pracy — stanoviać praŭdzivuju „arystokracyju pracy". Ludzi hałavy źjaŭlajucca sapraŭdnymi kapitalistami hramadzkaści, bo nia hrošy i stanovišča, ale rozum i praca kirujuć ichnym žyćciom. Naahuł usiakaja praca va ŭsie časy zajmała pieršaradnaje miesca ŭ žyćci hramady. Mahła jana spatykacca z trudnaściami i pieraškodami, mahła być praśledavanaj, panižanaj, mahła niby zanikać, iści ŭ paniavierku, adnak zaŭsiody vialikija rozumy ŭładajuć nami i pa svajej śmierci. Sokrat, Platon, Lok i inš. dahetul žyvuć u filozofii, Homer, Virihili, Dante i Šekspir — panujuć u poezii; Arystotel, Halilej, Njuton i Lavuazje — u navucy.

Usio heta ludzi, dla jakich praca była rečaj śviatoj, jakija dla jaje addalisia całkom. Pierakanalisia jany, što pole pracy takoje ahramadnaje, a žyćcio takoje karotkaje, što treba chapać kožnuju chvilinu, kab što-niebudź zrabić. Praca stałasia dla ich nieabchodnym varunkam da ščaścia, kali nie da samoha isnavańnia; praca zaniała ŭsiu ich naturu.

Michał Anioł — vialiki italjanski mastak — adčuvaŭ formalny hoład pracy. Havaryŭ jon, što raźbiarski małatok byŭ nieabchodnym dla jahonaha zdaroŭja. Mała navat adpačyvaŭ u pieraryvach, a časta siarod načy padsumoŭvaŭ vyniki svajej pracy. Druhi ŭsiestaronna abdarany zdolnaściami mastak, Leonardo da Vinči, byŭ taksama pracavity i ŭ pracy prosta zakachany. Byŭ jon adnačasna malarom, raźbiarom, chemikam, mechanikam, pieśniarom, budaŭničym i inžynieram — naahuł moža najbolš universalnym henijam, jaki kali-niebudź žyŭ na śviecie.

Siarod najbolš pracavitych, a razam i najščaśliviejšych vučonych, pracujučych nad adkryćciom pravoŭ žyćcia źviaroŭ, znachodzim Halera i Huntera. Zapał da navuki ŭ Halera byŭ amal što fanatyzmam. Choć byŭ jon zmałku dalikatny i chvarablivy, adnak pracavaŭ biazupynku. Dziŭnym dla nas siańnia źjaŭlajecca toje, što pry słabym zdaroŭi i ciažkoj umysłovaj pracy, dažyŭ Hunter da siamidziesiaci hadoŭ. Vyniki svaich dośledaŭ pačaŭ abviaščać majučy dvaccać hadoŭ, a ŭ pracia-

hu nastupnych piacidziesiaci hadoŭ vydaŭ bolš piacidziesiaci pracaŭ, pieravažna ab uražańniach čućciovych i, na hetym poli možna ŭvažać jaho za vynachodcu. Džon Hunter musiŭ zmahacca z šmatlikimi pieraškodami, jakija pachodzili pieravažna z nieachajnaha vychavańnia. Adnak pracavaŭ z prykładnaj pilnaściaj i ŭdačaj. Davoli ŭspomnić choć-by ab muzei sabranym im, u jakim znachodziłasia bolš 10.000 preparataŭ z haliny ludzkoj i paraŭnaŭčaj anatomii, fizyolohii, patolohii i inš.

Pasiarod ludziej navuki amal nichto nie pracavaŭ dziela zysku materyjalnaha. Naprykład vialiki filozof Spinoza nia pryniaŭ pensyi, jakuju jamu achviaroŭvaŭ Ludovik XIV, pad varunkam, što Spinoza zadedykuje (padpiša, achviaruje) svaju pracu „jaho karaleŭskaj miłaści". Adnak Spinoza chacieŭ lepš astacca niezaležnym i ŭtrymoŭvaŭsia z pracy ŭłasnych ruk, jakaja palahała na šlifavańni optyčnych škłoŭ. Jon tak byŭ zaniaty svaimi knižkami i dośledami, što nia vychodziŭ z domu całymi dniami.

Starannymi i ciarplivymi pracaŭnikami byli taksama astranomy. Jak Halilej, tak i Kopernik siadzieli načami až da kanca svajho žyćcia.

Adny pracujuć dziela sławy, druhija dziela pryjemnaści, inšyja dziela zdabyćcia majemaści, ale najbolš ludziej pracuje dziela zdabyćcia sabie kavałka chleba. Jošc adnak ludzi, jakija adznačajucca niazvyčajna vialikaj pracavitaściaj, jany patrapiać vykarystać kožnuju chvilinu žyćcia. Šmat słaŭnych chemikaŭ, pryrodnikaŭ, filozafaŭ byli vielmi aščadnymi što da času. Vialiki vučony Džon Dalton zrabiŭ šmat vynachadaŭ z haliny pryrodaviedy, dziakujučy biaspieraryŭnaj i vytryvałaj pracy nad dadzienym pradmietam. Kali jamu pa pryčynie jaho vynachadaŭ składali pavinšavańni padčas abchodu ŭhodkaŭ lekarskaj škoły ŭ Mančestery, skazaŭ: „Adnosna mianie, u prysutnaści hetulkich znamianitych ludziej navuki, mahu skazać tolki adno, što kali mnie ŭdałosia lepš, čym nie adnamu z tych, jakija źjaŭlajucca tut prysutnymi, dyk tolki dziakujučy biazupynnaj pracy. Kali adny ludzi stajać vyšej nad inšymi, dyk heta susim nia jošć vynikam bolšaha ichnaha rozumu, ale vynikam uvažnych dośledaŭ i vytryvałaści ŭ vybranym pradmiecie — heta tolki i daje pieravahu adnym ludziam nad druhimi". Dalton usio žyćcio paśviaciŭ spaściarahańniam i dośledam. Navat kali ŭ 71 hodzie žyćcia byŭ sparaližavany, paśla nievialikaj papravy biezadkładna prystupiŭ da dalejšaj pracy. U apošniuju noč svajho žyćcia trymaŭ u rukach knižku, u jakuju zapisvaŭ spaściarohi meteorolohičnyja; a spaściarohaŭ hetych zrabiŭ jon bolš dźviuch tysiačaŭ u praciahu piacidziesiaci hadoŭ.

Choć Dalton i nia byŭ čałaviekam zvyčajnym, i tolki ŭłasnaja skromnaść nie pazvalała jamu acenivać svaju pracu,

adnak biassumnivu jość ludzi navat nia vielmi zdolnyja, jakija vykonvali niazvyčajnuju rabotu tolki dziakujučy dobra zastasavanaj i vytryvała praviedzienaj pracy. Niekatoryja z ich, jakija zrabili mahutny ŭpłyŭ na žyćcio čałaviectva, nia byli na stolki henijalnymi, na skolki byli vytryvałymi ŭ imknieńniach da svaich metaŭ i byli vielmi zdolnymi pracaŭnikami. Da takich miž inšym možna zaličyć vialikich dziejačoŭ relihijnych jak: Marcina Lutera, Kalvina, Ihnata Łojołu i inš.

Značnaja čaść pracy ŭmysłovaj maje charaktar ehoistyčny (samalubny), časam raschodzicca tut nie ab stvareńnie niečaha karysnaha, pavučańnie inšych ludziej, ale maje na mecie hulniu, abo prosta jdzie ab ułasnaje zadavaleńnie. Naprykład Mezofanti pracavaŭ nad kožnaj movaj, ale rabiŭ heta tolki dziela ŭłasnaj pryjemnaści i nie pakinuŭ ničoha takoha, što mahło-b pamahčy čałavieku, idučamu jahonaj darohaj. Takich „navukoŭcaŭ“ było i jość całyja kadry, ale proźviščy ich nia vyšli paza kruh najbližejšych znajomych.

Siarod piśmieńnikaŭ było šmat vielmi pładavitych. Da najbolš moža pładavitych naležać Kalderon i Lope de Veha; pieršy z ich daŭ hišpanskaj literatury nia mienš čatyrochsot dramaŭ, a druhi napisaŭ ich kala dźviuch tysiačaŭ. De Veha pisaŭ z takoj lohkaściaj, z jakoj inšyja viaduć hutarku, pisaŭ jon svaje dramy biaz studyjaŭ i pryhatoŭki. Byŭ heta sapraŭdy improvizatar. Tvaryŭ, bo nia moh abyjścisia biaz hetaha. Nia było miesiaca, navat tydnia, kab jon nie napisaŭ jakoj dramy, kamedyi, romana abo soneta. U adnym z svaich tvoraŭ (Eklohi), naležačych da apošnich tvoraŭ jahonaha žyćcia, kaža, što z sotniu dramaŭ byŭ napisaŭšy ŭ praciahu niekalkich dzion. U praciahu piacidziesiaci hadoŭ žyćcia, napisaŭ bolš dvaccaci miljonaŭ vieršaŭ (radkoŭ? — r e d.).

Adnym z piśmieńnikaŭ u naviejšych časoch, jakoha možna było-b pryraŭniać z hetaha boku da Lope de Vehi, byŭ anhielski piśmieńnik Valter-Skot, katory adnak vypisaŭsia šmat raniej. Padčas najbolšaj svajej popularnaści tvaryŭ povieści pa dvanaccać tamoŭ u hod. Valter-Skot tvaryŭ chutčej čym moh pisać.

Najbolšuju vartaść maje adnak nia kolkaść, ale jakaść pracy. Heta jasna. Było šmat aŭtoraŭ, jakija paśviacili šmat pracy tvoram, jakija ŭ druku zaniali nia šmat miesca. Monteskjo pracavaŭ dvaccać piać hadoŭ nad svaim tvoram „Duch zakonaŭ“, jaki možna pračytać u praciahu adnaje hadziny. Aŭtor hety skazaŭ adnoŭčy da svajho pryjaciela: „Hetaja praca pabialiła maje vałasy“.—Italjanski paet Ariosto praz vosiem hadoŭ pisaŭ svajho „Šalonaha Orlanda“.

Rozum ludzki dasiahaje najbolšaha napružańnia tolki pry skoncentravanaj (napružanaj) uvazie, taksama jak kasuli śviatła, jakija adbilisia ad uchilenaha lustra i sabralisia ŭ adnym vohniščy. Hetaj koncentracyjaj myśli źjaŭlajecca ducho-

vy padjom, ekstaza, natchnieńnie. Njuton zrabiŭ svoj vialiki vynachad tolki dziakujučy zaŭsiodnamu dumańniu ab im, heta značyć pry pomačy skoncentravanaj myśli na pradmiecie, jaki byŭ im daśledžvany.

Supolnaj i zaŭziata vytryvałaj pracaj na nivie biełaruskaj kultury i haspadarki zdabudziem niezaležnaść Biełarusi.

# Biełarus pavinien pracavać pieradusim dla Biełarusi.

U № 3 orhanu studenskaj Korporacyi „Skarynija", „Novaja Varta", znachodzim pamiž inšym adkaz na dapisku, padanuju ŭ „Šlachu Moładzi" ŭ № 13 za 1933 h. da viestki ab śviatkavańni „Skarynijaj" uhodkaŭ „Słuckaha Paŭstańnia", u jakoj my vyrazili pažadańnie, kab Korporacyja „Skarynija" zaniała zdecydavanaje stanovišča nia tolki da Savietaŭ, ale i da inšych „apiakunoŭ".

Z adkazu danaha nam ŭ „Novaj Varcie" možna zrazumieć, što „Skarynija" choča adyhrać u biełaruskim adradženskim ruchu takuju samuju rol, jak lehijony J. Piłsudskaha ŭ adradženskim polskim ruchu ŭ aŭstryjackim zabory.

Voś-ža kali b „Skarynija da hetaha jšła, dyk jašče možna było-b ścierpieć pisaniny „N. Varty", bo viedama, što J. Piłsudski i jaho lehijony, apirajučysia na Aŭstryi pracavali i kroŭ pralivali dla spravy polskaje, a nie aŭstryjackaje. Tymčasam praca „Skarynii" i jaje siabroŭ nia tolki raźminajecca z biełaruskim adradženskim rucham, ale škodzić jamu.

Nia chočačy być hałasłoŭnymi, padamo fakty. Voś jany:

Korporacyja „Skarynija", dziakujučy svajej orjentacyi na Polšč, maje dostup da vučnioŭskaje biełaruskaje moładzi, siarod katoraj, zamiest pahłyblańnia biełaruskaha duchu, pravodzić toje, što siarod polskaje moładzi robić „Legjon Młodych", a imienna zakładaje „Straż Przedniu", jakoj apiakujecca polski ŭrad i metaj jakoj jość hadavańnie dobrych piłsudčykaŭ. U Vil. b. Biełaruskaj Himnazii „Straž Przedniu" załažyli Müller i inšyja siabry „Skarynii": — jasna, što jana viadzie biełaruskuju moładź u toj ci inšy sposab da spolonizavańnia.

Pieršaj pracaj publičnaj „Straży Przedniej" Vil. Bieł. Himnazii źjaŭlajecca, nie biaz pomačy „Skarynčykaŭ", pierakład z polskaje movy na biełaruskuju knižycy ab Marš. J. Piłsudskim, jakaja niadaŭna vyšła ŭ Vilni. Fakt hety vymoŭna sam za siabie havora.

Dalej, siabry „Skarynii" vitajuć polonizataraŭ biełaruskaje vioski i ličać heta sabie za honar. Było heta 25.III. 1934 h. ŭ Vilni, u Małoj Miestavaj zali, dzie siabra „Skarynii" Kałodka šumna vitaŭ „Zjazd Kół Młodzieży Wiejskiej ziemi Wileńskiej"

Znajem jašče da taho haduncoŭ „Skarynii", jakija siabie ŭvažajuć za „polaków białoruskiego pochodzenia". Hetaha jašče śviet nikoli nia čuŭ, a „Skarynija" adnak i takich uzhadavała.

Chiba davoli budzie hetaha dzieła śćvierdžańnia varožaje biełaruskamu ruchu pracy Korporacyi „Skarynii", jakaja sapraŭdy adyhryvaje haniebnuju rol. Bo što-ž moža być horšaje, jak adbirańnie biełaruskamu narodu jahonaje śviedamaje moładzi, da taho jašče vučnioŭskaje, jakaja sapraŭdy moža i pavinna adyhrać u biełaruskim narodnym adradžeńni vialikuju rol. I jak tady sapraŭdy možna pretendavać jašče siabrom „Skarynii" da imia dobrych biełarusoŭ?

Nie, nia tudoju daroha! Tyja biełarusy i tyja biełaruskija arhanizacyi, jakija chočuć mieć dobraje imia ŭ biełaruskim narodzie, pavinny pieradusim pracavać dla ahulna-biełaruskanarodnaha dabra, a tady, jasna, i toje apiryšča, na jakim buduć apirać svaju dziejnaść, nia budzie strašnym.

My razumiejem pałažeńnie Korporacyi „Skarynii". Ale-ž treba viedać, što ludzi žyvuć, nia tolki dla svajho ŭłasnaha žyvata i vyhodaŭ, ale i dla spraŭ hramadzkich pieradusim taho narodu, skul sami pachodzieć, asabliva-ž kali narod hetaha patrabuje. I biazumoŭna, Korporacyja „Skarynija" pavinna pracavać dla spravy biełaruskaj, a nia polskaj, dla jakoj pracavała i pracuje ciapier. *j—n.*

# Літэратурны аддзел.

**Міхась Машара.**

## Сьмерць Кастуся Каліноўскага.

*У 70-тыя ўгодкі Яго сьмерці.*
(*1864 — 1934*). 2)

VI.

Судзьдзя адкашляўшыся і паважна
Вялізну кнігу расхрыстаў
І тонам срогім і выразным
Свой суд пытаньнем распачаў: —

**Судзьдзя:**

— З якога роду?
Дзе жыў —
І як завуць?

**Кастусь:**

— Я з беларускага народу,
Яму служыў,
А імя—ўнукі ўспамянуць.

Судзьдзя:

— Ня будзьце вы такім упартым,
Пазвалі вас тут па загаду
Вышэйшай ўлады, — не пара
На жарты. —
Вы бунтавалі проці ладу
І волі бацюшкі-цара?

Кастусь:

— Але, я бунтаваў! Вы — правы,
У гэтым шчыра прызнаюсь!
Падняў я першы сьцяг крывавы
За працы люд! — і Беларусь.

Ня трэ' нам ласкі прымусовай!
Ня трэба нам апякуноў.
Ваш цар — крывавы гнёт вяковы
Пад вывескай — славян братоў! —

Сабраўшы нацыяў бяз ліку,
Ў Расею-матушку сваю,
Вы аддалі сям'ю вяліку
На жор хіжацкі маскалю.

І кожны рух „самазашчыты"
Плямён славянскае сям'і
Вы каты — царскія найміты,
Ў пажарах топіце й крыві.

Ўжо блізак, блізак дзень расплаты
Для вас — народаў грабары.
Штыхамі й петлямі вы, каты,
Той ня стрымаеце пары.

Судзьдзя:

— Маўчы! Бо дорага заплаціш,
Так нас абразіўшы й цара.
Ты, як вар'ят на сонца скачаш,
З пустою думай бунтара!

Ты, ты бунтар! — мяцежнік дзікі!
Ты — абаронца мужыка?!
На лад магутны і вялікі
Як паднялась твая рука?

Дык знай: заплаціш нам багата,
Дыктатар хамаў і рабоў!
Ты згінеш марна ў лапах ката,
Ў пятлі вяроўкі між стаўпоў.

**Кастусь:**

— Так, ізноў вы правы, правы!
Я ня збудзіў народных мас,
Прайграў я справу, генэралы,
Заплатай сьмерць прыму ад вас.

Ня страшна сьмерць і вашы кпіны!
Даўно аддаў я справе усё,
А сёньня толькі для Краіны
Аддам — жыцьцё!

**Пракурор:**

— Яшчэ ня страчана надзея,
Яшчэ ня згублена ўсё.
Адкрый намеры нам і дзеі —
Даруем мы табе жыцьцё.

**Судзьдзя:**

— Падумай...
Наш цар ёсьць міласьцівы,
А за цябе папросім мы
І будзеш ты ізноў шчасьлівы,
Вясёлы, вольны і жывы,

Адкрый нам толькі бяз утайкі
Ліхіх памоцнікаў усіх,
І главароў мяцежнай шайкі
Літоўскіх, польскіх і сваіх.

**Кастусь:**

— Такой агіднаю цаною,
Жыцьцё сабе я ня куплю.
Таргуйце вы, паны, сабою —
Я кроў братоў не прадаю.

Судом ня вашым я асуджан,
Ад вас я толькі сьмерць прыму,
Бо кожны слаб з вас і заблуджан
Судзіць мяне — й маю віну.

Ёсьць суд патомкаў, ёсьць і Бога;
За шлях пражыты на зямлі.
Ня вы, — яны асудзяць срога.
Вы-ж — гістарычныя нулі.

Ня вам, ня вам судзіць, паверце,
Народнай волі змагароў:
Ахвотны мы усе памерці
І рэдка хто — прадаць гатоў.

Вы памыліліся, генэралы!
Дарма спакусы... Я — ня ваш!
І вашых „срэбранікаў“ мала,
Я — барацьбіт, а ня Юдаш.

Усё прыму... на’т мукаў болі
І толькі тутака зьмірусь,
Адно — ня здраджу я ніколі
Працоўны люд і Беларусь!

Няхай — памру!
Вы — сьмерць расславіце маю.
З крывавых мукаў
У сэрцах ўнукаў,
Я ў помсьце жорсткі і багаты,
Як агняцьветам расьцьвіту
На гібель вашу, каты!

**Судзьдзя:**

— Маўчы! Даволі гэтых думаў!
Ня сьмей рабіць нам прыгавор,
Мы над судом ня сьцерпім глумаў.
За вамі слова, пракурор.

**Пракурор:**

— Я доўга гутарыць ня буду,
Высокі Суд, — тут ясна ўсё,
Я дамагаюся прысуду
Сьмяротнай кары для яго.

Ён дзіка йшоў супроць улады
І волі рускага цара,
Са сьцягам помсты і пагарды,
З вар’яцкай мэтай бунтара.

І пакананы — прад вамі
Гразіць асьмельваецца тут,
І робіць гордымі славамі
Усей манархіі прысуд.

Мяцежнай думаю зацяты,
Прыгатаўляў ён гібель нам.
Няхай-жа сяньня, ў дзень расплаты,
Высокі Суд! — ён згіне сам.

**Судзьдзя:**

— Што скажаш ты на абарону
Сваіх сьмяротна цяжкіх він?
Свой тон, мяцежнага разгону
Пакінь!
Ты пакананы і адзін!

**Кастусь:**

— Мяне асудзіце, я знаю
І згіну я — няхай.
Цаной жыцьця распачынаю
Я барацьбу за родны край.

Са мной ня згінуць мае дзеі
І дух народнай барацьбы;
Не пераможыце ідэі
Вялікай праўды на зямлі.

**Судзьдзя:**

— Пакінь мяцежныя пагрозы,
Дарма нас помстаю ня страш.
Мы праўду вашу пераможам,
Як кожны рух і протаст ваш.

А лепш, дыктатар разьвянчаны,
Главар бунтуючых рабоў,
І нашай праўдай пакараны,
Спаткацца з сьмерцю будзь гатоў!

**Кастусь:**

— О я даўно гатоў!... памру...
А вам прыпомняць сьмерць маю!

**Судзьдзя:**

Маўчы!
Даволі глуму слухалі твайго!
Жандармы! — вывесьці яго. (*д. б.*)

## VARONA.

(*Bajka*).

Choć zvyčaj, pieraniać
Kamu-niebudź ŭdajecca,
Adnak ŭ zvyčai tym
Duch rodny adhukniecca.

—:—

Ŭ hai zialonym i pryvolnym
Špiavaŭ rankami sałaviej —
I ciešyŭ jon ŭ trudzie mazolnym
Harotnych dolaju ludziej.

Pastuch tahdy im lubavaŭsia,
Pierastavaŭ na dudcy jhrać
I da pastuški uśmichaŭsia,
Rataj spyniaŭ kania harać.

Małyja ptuški zacichali
Z vialikich biaručy prykład,
Viatry listočkaŭ nie čapali
I haj zdavałasia byŭ rad...

Adna varona nie caniła
Hajoŭ tutejšych Bajana
I ptuškam ŭsim razhamaniła,
Što lepiej šmat piaje jana.

Na dzień adzin da toha haju
Sa ŭsich vakolic i kancoŭ
Nasabirałaś z świeta kraju
Cikavych, muzykaŭ, piaŭcoŭ

Słuchać redki śpieŭ śpiavaki.
Ŝcichła na't ŭsia dzietvara.
Varona ton biare trajaki
I praśpiavała: — „Kyrrr, kraa,
[kraa!“.

*J. Vilkoŭščyk.*

М. Машара.

# Майскія сьлёзы.

*Прысьвячаю маей маленькай дачцэ Аўгені.*

Яго звалі — Май.

Радзіўся ён на шырокім прывольлі прыгожай зямлі.

Роднай маткай яго была вясна, а хроснай — сонца...

Сёстрамі яго былі сонечныя коскі, а братам—лёгкакрылы і гутарлівы вецярок.

Таварышамі -- рабакрылыя мятлікі і прыгожыя малюсенькія, звонка-радасныя птушкі.

Вопратку дала яму матка-вясна з зялёнага аксаміту маладой травы і бліскучага лісьцейка дрэў, расквечаную цудоўнымі ўзорамі зацьвіўшых сенажацяў.

Твар меў, як бела-ружовыя красачныя пялюсткі яблынь. Вусны — чырвень маладых рож... а вочы — васількі беларускіх палёў.

Шапачку саткала яму сонца з глыбокай сіні неба, з золата і пурпуру вясьняных зор... Пояс—з ірдзістага зьяньня многахварбных вясёлак.

Скрылы даў яму яго брат вецярок. І насіўся ён прыгожы і вясёлы па шырокаму прастору зямлі.

За ім бегалі коскі сонца, — яго сёстры. За ім лёталі чароўныя мятлікі, — яго таварышы. Вясёлай песьняй віталі, яго птушкі ў лесе, а ён радасна шумеў у дрыжачым лісьцю асін, скакаў і гойдаўся на гібкім гальлю бяроз.

Зьвінелі і сакаталі тысячатонным гоманам спатыкаючы яго жаўрукі ў небе і нязлічаныя шмарагдавыя канькі па палёх і лугох.

Вясёлы і радасны быў Май... і ўсюды было вясёла і радасна...

А калі, ён зьняможаны гульнёй і жыцьцёвай радасьцю першага дня, лёг адпачыць на пахучае ўлоньне Маткі вясны, сонка, песьцячы яго чырвеньню вячэрніх праменьняў, схавала вагністы свой твар за гару, і клікнула ноч вартаваць яго спакой.

І прышла — ноч... Прывяла з сабой зіяючы блеск дрыжачых зор, ціш забыцьця і спакой. І пахіліўшыся над паўсонным Маем распусьціла свае чорныя косы, тулячы яго ў ваўністыя хвалды туманнага змроку, пачала сеяць салодкі і ліпкі мак забыцьця і сноў.

— Хто ты?—запытаў яе у паўдрэме Май.

— Я — ноч...—ціхім, ціхім шопатам адказала ноч.

— Чаму ты так—сумна—ціха?... Чаму так чорны твае косы? Чаму твае вочы поўны бліскуча-дрыжачых сьлёз?

І яшчэ цішэйшым шолахам пачала свой шопат ноч: —

— На мае плечы лягла ўся зьнямога жыцьця... Увесь боль і смутак пакрыўджаных. Усё цярпеньне і мукі бяз-

дольля. Іх больлю баліць маё сэрца. Іх сьлязамі іскрацца мае вочы-зарніцы. — Увесь іх цяжар узяла на сябе, а ім дала ў замен міг забыцьця... Міг супакою і салодкую ману сноў.

Засмуціліся васільковыя вочы вясёлага Мая, і глыбокая задума лягла на яго далікатна-бела-ружовы твар.

— Ці-ж так многа гора, болі, сьлёз і бяздольля мае жыцьцё на зямлі?—ледзь чутна прашаптаў Май.

— О так!... Многа, надта многа... шмат больш чым радасьці, шчасьця і долі — зноў ціхім шолахам адказала ноч.

— Чаму-ж я яго ня бачыў?

— Ты сын шчасьця, ты сын радасьці... Твой шлях лёгкі, прыгожы і вясёлы...

— А ці-ж інакш жывуць другія? Ці-ж не хапае ўсім красы, цяпла і сьвету на прыгожа расьцьвіўшай зямлі? Ці-ж ня ўсіх так прыгожае і радаснае жыцьцё? І чаму я ня бачыў ні гора, ні сьлёз на зямлі?

—О не, далёка не...—прашаптала ноч.—Ты толькі пазнаў радасьць і шчасьце, ты, толькі пазнаў адзін бок жыцьця. Другі ад цябе захаваны, бо-ж ты сын радасьці і шчасьця. Сонца і вясна — твая Матка, і сам ты — вясёлая краса і радасьць.

І пачаў прасіць ноч вясёла—сьветлы Май:

— О ты, каторая ўзяла на сябе ўсю зьнямогу жыцьця,... і даеш спакой, забыцьцё і сон другім...

— О ты, што плачыш, чужімі сьлязамі і цярпіш чужым болем і мукай...

—О, Матка бяздольля, цярпеньня і крыўд... — Я пакахаў цябе міласэрную і ласкавую... Цябе, кахаючую ўвесь боль і нягоду жыцьця. Мацней атулі мяне сваімі чорнымі косамі. І раскажы мне пра боль, пра мукі, пра сьлёзы і крыўды жыцьця і зямлі.

Нізка, нізка схілілась над сьветлым Маем ноч... І моцна, моцна атуліла яго сваімі густа-чорнымі косамі. Калышачы-ж на мягкім улоньні, пачала ціхім—ціхім шолахам шаптаць яму сумную казку прыгожай зямлі і жыцьця.

Сквапліва і доўга слухаў прытуліўшыся да яе сьветлы Май. І каціліся крыштальныя сьлёзы з яго сьветла-васільковых вачаў. І доўга плакаў слухаючы вясёлы Май... Плакаў над горам, над больлю і крыўдай жыцьця. Аж пакуль не прарос у яго сэрцы салодкі мак забыцця і сноў, пасееный ласкавай начой.

— — — — — — — —

На небе загарэліся першыя косы ўсхадзячага сонца. Пачынаўся новы дзень. Ціха і паволі, заплятаючы свае доўгія, чорныя косы, зьнікала ноч.

На шырокіх дыванох зацьвіўшых палёў і лугоў зноў да жыцьця і радасьці прачынаўся вясёла радасны Май. Зноў радасьцю, песьняй і красой вітала яго жыцьцё і зямля.

Толькі на аксамітнай яго вопратцы, сатканай з шоўку

траў і красак,... і ў сьветла-сініх васільковых вачох дрыжэлі і ірдзіліся, расквечаныя брыліянцістым зьяньнем сонечных касуль, сьлёзы.

Сьлёзы — вылітыя ноччу пры слуханьні сумнай казкі зямлі і жыцьця.

---

— Будзе пагода, многа расы дала цёплая ноч, — казалі людзі выходзячы да працы ў полі, і пабачыўшы Майскія сьлёзы.

І ніхто ня ведаў, што гэта не раса, а сьлёзы вылітыя з васільковых вочаў вясёлага Мая.

Сьлёзы спагады для жыцьцёвай нядолі і гора.

І ніхто ня ведаў, што ноччу так горка плакаў вясёлы Май, спазнаўшы ўсю праўду жыцьця і зямлі.

---

## T r a v i e ń.

5-ty miesiac hodu, maje 31 dzień. U rymlanaŭ — Maius; franc. i niam. — Mai; anhiel. — May. U respubl. kal. Floreal— miesiac krasak.

U sɫavianaŭ — travnyj; česk. — kvieten; serb. — travien, ćvietan; ras. — maj; pol. — maj; ukr. — travień.

Bieɫaruski nazoŭ — travień — pachodzić ad sɫova „trava", bo ŭ hetym miesiacy ziamla ŭsiudy pakryvajecca travoju. Jak u narodzie, tak i ŭ literatury travień jašče naz. majem.

U rymlanaŭ miesiac travień byŭ paśviačany bahini Mai, adkul i atrymaŭ svoj nazoŭ. Niekatoryja historyki ćvierdzieć, što nazoŭ „Maj" pachodzić ad sɫova maiores, što znača „starejšyja" (hodnaściami ludzi), bo ŭ Rymie hety miesiac byŭ praznačany na češć senataraŭ.

Rymlanie ŭ kancy krasavika i ŭ pačatku traŭnia śviatkavali viasioɫaje śviata — Florealia — u češć Flory, bahini kvietak. Adhaɫoskam hetaha śviata ŭ paźniejšych pahanskich narodaŭ, asabliva-ž u sialan jak ćvierdzić historyk Šerel, byŭ zvyčaj sadzić dzierava, jakoje nazyvali „majem." Hetaja pasadka adbyvaɫasia ŭ dzień 1-ha traŭnia. Paźniej, u chryśćijanskich narodaŭ, „maj„ sadziŭsia na siomuchu, što i dahetul zachavaɫasia ŭ bieɫarusoŭ i inšych sɫavianskich narodaŭ.

Dzień 9-ha traŭnia rymlanie paśviačali dla addańnia češci i pašany niabožčykam. Adhaɫoskam i pieražytkam hetaha ŭ sɫavianskich narodaŭ i ŭ bieɫarusoŭ, z adnaho boku jość Radaŭnica, z druhoha — „Abied pa radzicielach," u subotu pierad Trojcaju.

U traŭni miesiacy najčaściej prypadaje Uśeście, — apošni dzień piajańnia viaśnianak. Čas pamiž Uśeściem a Trojcaju — **taɫaka**: sialanie pamahajuć adzin druhomu ŭ pracy na poli, jak: vyvozić hnoj, arać i siejać. Hety pryhožy zvyčaj dabradziejstva jašče i ciapier krasuje ŭ šmatjakich miascovaściach Bieɫarusi.

Za travień miesiac dnia prybyvaje na 1 h. 42 minuty. Travień — najpryhažejšy viesnavy miesiac. Nadvor'je bolš umiarka-

vanaje, ale časami zdarajucca prymarazki, asabliva ŭ pieršaj pałovie traŭnia.

Miesiac travień u ryma-katalikoŭ paśviačany Božaj Maci — Maryi. Praz uvieś miesiac u kaściołach štodnia adbyvajecca adumysłovaje nabaženstva, h. zv. majovaje. Pa vioskach-ža kataliki, prybirajuć fihuru Božaj Maciery i pierad joju viečarami źbirajucca na „majovyja" nabaženstvy.

1-ha traŭnia, 1-ha maja — šyroka viedamaje rabotnickaje śviata, śviata baraćby i pieramohi pracoŭnych. Hetaje śviata ŭstanoŭlena bolš 30 hadoŭ tamu nazad. U rezalucyi 1-ha kanhresu II-ha Internacyjanału, jaki zasiadaŭ u 1889 hodzie, było skazana hetak ab ustanaŭleńni śviata 1-ha maja: „Naznačajecca vialikaja mižnarodnaja manifestacyja u raz nazaŭsiody ŭstanoŭlenuju datu takim čynam, kab uva ŭsich krajoch i ŭva ŭsich haradoch, u vadzin ustanoŭleny dzień pracoŭnyja pakazali hramadzkim uładam damahańnie abmiežavańnia zakonam rabočaha dnia da vaśmioch hadzin, a tak-ža vykanańnia ŭsich druhich pastanovaŭ mižnarodnaha kanhresu ŭ Paryžy." „Dziela taho, što padobnaja manifestacyja ŭžo vyznačana na 1-ha maja Amerykanskaj federacyjaj pracy na kanhresie hetaj federacyi ŭ San-Lui ŭ śniežni 1888 h., dyk hetaja-ž data pryniata i dla mižnarodnaj manifestacyi." — Z hetaha času śviata 1-ha maja pastupova ŭvachodzić u praktyku rabotnickaha ruchu ŭsich krajoŭ i stanovicca dla pracoŭnych usiaho śvietu pokličam da abjadnańnia, da arhanizacyi dziela baraćby z kapitałam.

U respublikanskich staronkach dzień 1-ha traŭnia pryznany jak dziaržaŭnsje „śviata pracy:" u hety dzień tam nichto nie pracuje. U tych-ža staronkach, dzie narod ad ułady adapchniony, tam u dzień 1-ha traŭnia adbyvajucca demonstracyi, niaraz vielmi burnyja, jakija časta kančajucca kryvavymi sutyčkami,sudam i roznymi karami.

U narodnym kalendary:

Maj ziamlu hreje, a sivieram vieje. Maj chałodny, hod chlebarodny. Chałodny maj — dobry ŭradžaj. Mokry m. — budzie žyta jak haj. Maj — kaniu siena daj, a sam na pieč uciakaj. U maju maroz—nia budzie rajoŭ. Hrymoty ŭ maju spryjajuć uradžaju.

2.V. (st. st.). Barys i Hleb siejuć chleb. (U niekatorych miascovaściach na Barysa i Hleba byvajuć kryžovyja chody da krynicaŭ).

7.V. (S. s.). Śv Pachom pavieje ciapłom.

8.V. Siej lon na Stanisłava — vyraście, jak łava.

9.V. (S.s.). Viesnavy Mikoła — śviata koniuchoŭ. Viesnavy Mikoła kania adkormić. Prypasaj siena da Mikoły, nia bojsia zimy nikoli. Dva Mikoły: adzin z travoju, druhi z zimoju.

14.V. (S.s.). Pryšli Sidary, pryšli j siviery.

22.V. (S.s.). Ad Vasiliska i sałaviej blizka.

22.V. Siej lon na Alonu, budzie kašula pa kalena.

24 V. (S.s.) Kali roj vyjdzie pierad Janam, budzie pčalar panam.

29.V. Mahdalena ziaziulku prysyłaje.

— Z Pierapłaŭnaj sierady možna kupacca da Illi. Na pierapłaŭnuju sieradu sadzi cybulu — budzie horkaja. *U.Paŭ—ski.*




## *V I A S N A.*

*Znoŭ viarnułaś viasna chutkim krokam,*
*Zielaniejuć łuhi i pali,*
*Zaźvinieła ŭ hary la abłokaŭ*
*Ad viarnuŭšychsia ptušak z dali.*
*Znoŭ pryhoža kruhom i viasioła,*
*ŭsia ziamla da žyćcia ustaje;*
*Płyvie radaść ad siołaŭ da siołaŭ*
*I u sercach nadzieju kuje.*
*Zakipieła ad pracy pa honiach;*
*Pot rasisty paliŭsia ruččom.*
*Sielanin u mazolnych dałoniach*
*ŭsim trudom stavić śmieła plačo.*

*Uł. Kazaroviec.*

**Л. Войцікава.**

# Пералётныя птушкі.

Жыцьцё жыхараў вёскі заўсёды цесна зьвязана з жыцьцём прыроды. Вясной селянін разам з прыродай прыступае да працы, увосені разам з ёю канчае працу і цешыцца заслужаным зімовым адпачынкам.

Спаміж ўсіх твораў прыроды найбольш зварочваюць ўвагу селяніна птушкі. Яны зьяўляюцца ягонымі таварышамі, з іх пералётаў і захаваньня селянін варожыць зьмены пагоды і да вынікаў спасьцярогаў дастасоўвае сваю працу.

Нашыя народныя прыказкі пацьвярджаюць гэтую сувязь паміж пералётамі птушак і пагодай.

І так, прыказкі кажуць: „калі жаўранак прыляціць на Мацея (24 лютага) то зіма хутка спацее·"

„Калі зязюля перад Пятром (29 чэрвеня) перастане каваць (кукаваць), то будзе восень халодная і раньняя зіма."

„Калі зязюля па Пятрэ куе, то восень будзе цёплая і зіма па Усіх Сьвятых стане."

„На колькі нядзель перад Калядамі адлятуць гусі ў вырай, столькі нядзель па Калядах зіма стане."

Веснавыя і васеньнія пералёты птушак заўсёды вельмі цікавілі вучоных, падарожнікаў і паляўнічых, якія досьледамі і спасьцярогамі стараліся выясьніць прычыны гэтага зья-

вішча. На падставе іх працаў можам сказаць, што дзьве галоўныя прычыны кіруюць пералётамі птушак: недахоп ежы, страх перад голадам, які гразіць зімою, выклікаюць адлёт іх ў вырай; патрэба будаваньня гнёздаў і ўзгадаваньня дзетак—кліча іх назад у свой край, дзе яны самі радзіліся і правялі сваю моладасьць.

На зіму пакідаюць нас перадусім такія птушкі, якія не знайшлі-б для сябе адпаведнай спажывы ў гэтую пару году. І так, тыя птушкі, якія выключна ядуць мушак ды розныя казюлькі, а таксама птушкі вадзяныя і балотныя, якім замярзаньне рэчак і балотаў гразіць сьмерцю адлятаюць у вырай. Астаюцца-ж у нас гатункі, што кормяцца рознымі зярнятамі, як напр. чыжыкі, шчыглікі, або такія, якія карыстаюцца ежай мяшанай і могуць узімку абыйсьціся без кузюляк, нарэшце такія каторыя ядуць пераважна яечкі казюляк ды іх чарвячкоў і ўмеюць адшуківаць іх ў шчэлках кары, як напр. дзятлы. Астаюцца таксама птушкі дросныя (драпежныя), якія і ўзімку могуць сабе даць раду. Аднак меншыя гатункі дросных, якія ядуць пераважна малых птушак ды адчасьці кузюлькі, адлятаюць таксама, бо і ім гразіць ўзімку голад.

Веснавыя пералёты птушак пачынаюцца найчасьцей ў палавіне лютага.

Насамперад прылятаюць самыя вытрывалыя і зарадныя. Да гэтых першых веснавых гасьцей належаць **жаўранкі і шпакі.** З лясных птушак найраней прылятае **галубсіняк.** Крыху пазьней над балотамі бачым першыя **чайкі.**



Калі воды і балоты ўжо зусім размерзнуцца, пачынаецца рух паміж птушкамі балотнымі і вадзянымі. Насамперад прылятаюць **жураўлі** (жоравы) Лятуць яны двума радамі, сходзячыміся пад вострым кутом. Лятуць вельмі высака, часта нават пабачыць трудна, але моцны іх голас чуваць добра і пазнаць лёгка.

**Бацяны,** ці інакш **буслы,** зьяўляюцца ў нас пазьней чым жураўлі. Не прылятаюць яны ўсе аднаго дня, а насам-

перад прылятае пярэдняя стража, зложаная з невялікага ліку старых самцоў, а праз некалькі дзён пазьней зьяўляецца галоўная грамада, зложаная з некалькіх паасобных аддзелаў. Кожны такі аддзел ляціць асобна і складаецца з некалькіх сотак, а нават тысячаў птушак. Лятуць яны вельмі высака, часта ў вышыні недаступнай для вока, ды паміма гэтага кожная пара пазнае сваю ваколіцу і спускаецца на на сваё роднае гняздо.

Зараз пасьля бацяноў, або крыху пазьней прылятае **чапля** сівая. **Ластаўкі**, якія выключна кормяцца мушкамі ды камаркамі, каторых ловяць лётаючы, прылятаюць да нас толькі тады, калі ўжо пагода пасталее і пацяплее. Гэта бывае менш больш у другой палове красавіка.

У маі месяцы, калі збожжа ды трава ўжо даволі высокія і даюць добры прытулак **перапёлкам**, варочаюцца яны да нас і будуюць ў збожжы свае гнязьдзечкі, добра захаваныя ад людзкога вока. У маі гэтаксама прылятае **зязюля**. Спажыва яе складаецца з вялікіх касматых гусьвіцаў, якія жывуць на дрэвах. У пачатку вясны не знайшла-б яна іх зусім, так што і прылятаць рана ня мае чаго. У маі прылятае і пачынае пяяць найлепшы артыст птушыны—**салавейка**.

У гэтым-жа месяцы варочаецца **івалга**, якая чакае, каб добра зазелянелі лясы і скрылі ў сваіх галінах яе кідаючуюся ў вочы багатую ахварбоўку.

Канец мая, гэта канец павароту птушак з далёкага выраю. У лясох, на палёх і балотах кіпіць праца. Птушкі будуюць гнёзды, складаюць яечкі, выседжываюць, а пасьля гадуюць дзетак.

Але-ж лета хутка мінае. Птушкі скончыўшы сваю працу, у павялічаным ліку, бо з цэлымі маладымі пакаленьнямі зьбіраюцца да новай падарожы, да новага пералёту — у вырай. У паветры ўжо адчуваецца павеў восені. Чакаць няма чаго. У канцы лета пачынаюцца адлёты нашых птушак і трываюць праз цэлую восень, аж да пачатку зімы.

Насамперад уцякаюць тыя птушкі, якія прыляцелі да нас апошнімі, г. значыць існаваньне якіх цесна зьвязана з цяплом і прысутнасьцю гусьвіцаў, казюляк і г. падобных. Найдаўжэй астаюцца тыя гатункі, якія прыляцелі першымі ранай вясной. Яны найбольш вытрывалыя і найлепш прыстасаваныя да цяжкіх варункаў жыцьця познай восені, як і раньняй вясны.

Што раз больш і больш пусьцеюць нашы лясы, палі і балоты. Толькі нашыя шчырыя прыяцелі: вароны, каўкі, шчыглікі, чыжыкі і іншыя не пакідаюць нас ніколі. Астаецца таксама з намі шэранькі верабейчык, хоць зімою чуваць яго ціхую скаргу: „чуць-жыў, чуць-жыў, чуць-жыў.“

# Хроніка.

## З беларускага жыцьця.

**Беларускі Нацыянальны Камітэт** у Вільні, які зьяўляецца агульна-беларускім прадстаўніцтвам Зах. Беларусі, згодна з сваім рэгулямінам выдаў камунікат заклікаючы належачыя да К-ту арганізацыі дэлегаваць да 20 г. м. новых сваіх прадстаўнікоў на 1934 35 г. Такім спосабам БНК абновіцца і пасьля будзе выбраны новы Прэзыдыюм Камітэту.

**У 8-я ўгодкі сьмерці бел. паэта К. Сваяка**, 7 г. м., Кс. др. Ст. Глякоўскі адправіў у касьцеле сьв. Мікалая ў Вільні жалобнае набажэнства.

**У Беларускім Інстытуце Гаспадаркі і Культуры** ў Вільні апошнім часам вядзецца прыгатаваўчая праца ў навуковых сэкцыях, апрацоўваюцца рэгуляміны сэкцыяў і плян працы на 1934-35 г. — 12 г. м. Віленскі Аддзел Інстытуту ладзіў навуковую лекцыю на тэму „Адам Гурыновіч як беларускі этнограф", якую прачытаў абс. этн. М. Пецюкевіч.

**У Беларускім Студэнскім Саюзе** ў Вільні студ. В. Тумаш прачытаў II частку свае лекцыі аб дарвінізьме.

**У Т-ве Прыяцеляў Беларусаведы** пры Віленскім Унівэрсытэце 8 г. м. адбылася лекцыя студ. Мілючанкі на тэму: „Справа Сьвідрыгайлы ў сьвятле гістарычнае літэратуры".

**У Т-ве Беларускае Асьветы, у Корпорацыі „Скарыніі" і ў Бел. Навуковым Т-ве** апошнім часам неяк „загуло". Усе гэтыя арганізацыі, як ведама, падтрымлівае польская ўлада, а належаць яны да людзей аднаго лагеру, якія пасварыліся паміж сабой. Пачалося ад „Novaje Varty" — органу „Скарыніі" — ў якой паявілася вестка аб нявылічэньні з грашовых спраў Р. Астроўскага. З гэтае прычыны Навуковае Т-ва „завесіла" Астроўскага, як сябру гэтага Т-ва, а ТБА „завесіла" ў сябе сяброўства А. Луцкевіча, Н.-Трэпкі, В. Самойлы і В. Грышкевіча затое, што яны „завесілі" ў Навук. Т-ве Р. Астроўскага. Корпорацыя-ж „Скарынія" выключыла з сваіх радоў студ. студ. Т. Грышкевіча і Ч. Ханяўку затое, што яны быццам выдалі на сваю руку „Novuju Vartu".

**З выдавецкае нівы.** Нядаўна вышаў з друку і паступіў у прадажу доўга жданы зборнік вершаў Міхася Машары — „Н а с о н е ч н ы б е р а г!". Выданьне Ст. Глякоўскага і Яз. Найдзюка. Зборнік гэты, выдадзены з партрэтам паэта і з прыгожай вокладкай, мае 80 бачын і каштуе 1 зл. Падрабязную крытыку зборніку зьмесьцім у наступным нумары „Ш. М.".

**Новую беларускую часопісь** маюць выцаваць вучні Віл

*СЯБРЫ РЭДАКЦЫЙНАЕ КАЛЕГІІ:*
*Ізабэля і Альфонс Шутовічы і Язэп Малецкі.*

**Рэдактар Язэп Найдзюк** **Выдавец Янка Багдановіч**

Бел. Гімназіі. Жадаем, каб была яна больш даўгавечнай як „Пралескі“, выдавецтва якой было распачата ў 1932 г. і на першым нумары спынілася.

**Вечар беларускае літэратуры ў Слоніме** ладзіла нядаўна адна з мясцовых польскіх арганізацыяў. Рэфэрат аб беларускай літэратуры прачытала вучыцелька бел. мовы слонімскай вучыцельскай сэмінарыі грам. Хруцкая.

## Т-ва „Пчала“ і зёлкі

Т-ва „Пчала“, аб ажыўленьні якога мы ўжо пісалі ў прошлым нумары „Ш. М.“, выбрала новую Наглядную Раду ў складзе: М. Манцэвіч, Дараховіч, Біндзюк, інж. Дубейкаўскі, Шнаркевіч і інж. Клімовіч, а так-жа Управу Т-ва, у якую ўвайшлі грам. Л. Вайцікава — старшыня, грам. М. Паўловічыха — скарбнік і Я. Найдзюк — сэкрэтар — прыступіла да працы. Перадусім выдала інфармацыйную адозву да беларускіх пчаляроў, заклікаючы іх упісвацца ў сябры Т-ва „Пчала“ і арганізуе Завочныя (Карэспондэнцыйныя) Курсы дзеля арганізацыі збору мядова-лекарскіх зёлак, зьбіраючы якія і прадаючы ў сучасны цяжкі час можна добра зарабіць. Важна гэта асабліва для вясковае бел. моладзі, якой радзім неадкладна запісвацца на курсы і брацца за працу, бо ўжо цяпер можна прыступіць да збору: кветак белай крапівы, бузіны (чорны бэз), лісьця суніцаў (пазёмак), пралесак, крапівы, бабоўніку, мучанічніку; зельле браткаў; кары дубовай, барбарысавай і крушыны.

Дзеля бліжэйшае інформацыі падаём ніжэй проспэкт вышэйназваных курсаў, які выглядае гэтак:

**Мэта курсаў.** Завочны курс дзеля арганізацыі збору мядова-лекарскіх зёлак мае на мэце даць адпаведную веду тым людзям, якія выкарыстоўваньнем дзіка растучых лекарскіх зёлак маглі б палепшыць свой і сялянскі быт.

**Час навукі** разьлічаецца на 3 тыдні. Праграма абымае 9 лекцыяў, якія будуць высылацца раз у тыдзень партыямі па 3 лекцыі ў кожнай.

**Плата.** Навука бясплатная, толькі як зварот кошту друку, паперы і паштовых расходаў кожны з курсантаў павінен унясьці 3 залатоўкі за ўвесь час трываньня курсаў.

**Падрабязная праграма.**

I. лекцыя. 1) Гісторыя ўжываньня зёлак у лячэньні. 2) Прылады да зьбіраньня зёлак. 3) Пара і спосабы зьбіраньня паасобных частак расьціны.

II. лекцыя. 1) Арганізацыя зборных пунктаў. 2) Прылады да сушэньня. 3) Спосабы сушэньня.

III. лекцыя. 1) Перахоўваньне сухіх зёлак. 2) Перасылка. 3) Варункі аплатнасьці.

IV, V, VI, VII, VIII і IX-я лекцыі абымуць падрабязныя апісаньні зёлак найбольш у нас спатыканых і маючых найбольшае запатрэбаваньне ў гандлі.

Запісы на Курсы трэба слаць на адрэс: T-wo „Pczała“ Wilno, ul. Królewska № 3—8.

Pierasylka płačana ryčałtam.

# Usiačyna

**Čeluskincy vyratavany.** Čeluskincami nazyvajuć ciapier siabroŭ saviecкaje navukovaje ekspedycyi na dalokuju poŭnač na karabli Čeluskin, jaki napatkaŭšy vialikija ladzianyja kryhi raźbiŭsia i zatanuŭ, a pasažyry jahonyja, ratujučy svajo žyćcio, paŭciakali na kryhi lodu i na ich praz doŭhi čas pływali pa mory. Dziela ratavańnia hetych ludziej było vysłana niekalki karabloŭ i samalotaŭ, jakim paśla vialikich natuhaŭ udałosia vyratavać usich siabroŭ ekspedycyi

**Novyja rekordy italjanskich latunoŭ.** Italjanski latun Donati padniaŭsia na samalocie na vyšyniu 14,5 klm. Na hetaj vyšyni było 56°C marozu. Italjanskaja latunka Markhrabinia Carina Negroni de Cambiase padniałasia na samalocie na vyšyniu 5.4 klm. i hetym pabiła suśvietny rekord uzlotu ŭ vyšyniu siarod kabiet; a latun Donati pabiŭ taki-ž rekord siarod mužčyn.

**Televizory.** Tak nazyvajuć niadaŭna vydumanyja adbiorčyja aparaty, jakija ŭžo pradajucca ŭ Anhlii, pry pamačy katorych možna bačyć na vialikuju adlehłaść pradstaŭleńni i inšyja dziejańni ludziej, źviaroŭ i mašyn nadavanyja praz nadaŭčyja aparaty televizii.

---

## ПІСЬМО Ў РЭДАКЦЫЮ.

Паважаны Грам. Рэдактар!

Ветліва прашу Вас зьмясьціць у сваей часопісі наступнае: у № 4 „Асвы“ с. г. ёсьць зьмешчаны верш: „Мы не адны“, падпісаны псэўдонімам „Быліна“. Дзеля таго, што гэты псэўдонім грамадзянства даўно знае, як мой, чытачы могуць думаць, што я супрацоўнічаю ў „Асве“. Гэта мяне прымушае катэгарычна заявіць, што я не толькі ня супрацоўнічаю ў гэтай часопісі, але ідэйна мяне нічога з ею ня лучыць. А калі і далей будзе „Асва“ выкарыстовываць мой псэўдонім, то я працiў гэтага запратэстую судовай дарогай.

8.V.34. З пашанай БЫЛІНА.

---

## ПАШТОВАЯ СКРЫНКА.

К. Еляш—вічу. Весткі з жыцьця Вашага сум наводзяць, стойкая праца аднак пацяшае. Просьбу ў меру сіл будзем старацца выпаўняць. Вершы слабыя, радзім пісаць прозай.

Быхаўскаму. Весткі і круцігалоўкі выкарыстаем. Падзяка.

А. Жуку. Вершы атрымалі, дзякуем, будзем друкаваць.

P. Raman—ku. Za prysłanaje dziakujem, ciešymsia što Vy ŭžo prystupili da pracy i čakajem na abiacanyja materyjały, z raniej prysłanaha ničoha puścić u druk nia možam.

U. Kazaroŭcu. Materyjały atrymali, vierš drukujem, reštu adkładajem u dalejšyja numary. Pišyć možacie, ale treba lepš usio apracoŭvać.

B. Pavied—ły. Za viestki dziakujem, prośbu spaŭniajem i čakajem na padpisku.

P. Hapan—ku. „Šl. M“ praz uvieś čas vysyłali my Vam akuratna na toj adras jaki Vy nam dali i na jakim nia była pakazana vioska, i dziela hetaha vidać Vy časopisi nie atrymlivali. Usie numary vysyłajem, za padpisku dziakujem.

А. Мац—ру. За вестэі дзякуем, скарыстаем.

Я. Матэ—ку і Ю. Зно—ку. Просьбу спаўняем.

Хролу Ман—вічу. За прысланае дзякуем, скарыстаем.

С. Шыру. Вершы слабыя, пішэце лепш прозай, з круцігалоўкі скарыстаем.

Х. Ігрыку. Дзякуем за прысланае, нажаль самі выкарыстаць ня зможам, але будзем старацца каб яно пабачыла сьвет. Просім не забываць.

Куток Разрывак з нястачы месца адкладаем у наступны нумар.